# ЗМЕСТ:













# Вітаю ўсіх!




А вось і я, Жэўжык!
Нарэшце мы можам зірнуць адно на аднаго: вы на мяне, а я — на вас.
Цяпер мы ўжо сапраўды добрыя знаёмцы і нават сябры!

Надышло лета, прырода навокал зазелянела і расквітнела.
І так прыемна бавіць час на дварэ, у парку ці ў лесе, што і я трошкі загуляўся... Вось трэці нумар выйшаў пазней, чым звычайна. Выбачайце, калі ласка!
Паўсюль мы сустракаемся з дрэвамі.

А вы ведаеце, што гэта вельмі цікавыя жывыя арганізмы?
Давайце пагаворым пра іх падрабязней.


Old Tjikko

Дрэвы - адны з галоўных доўгажыхароў на нашай планеце. Самаму старажытнаму ў свеце — ужо 9,5 тысяч гадоў!
Гэта шведская яліна (Old Tjikko), што дажыла да нашага часу дзякуючы вельмі моцнаму карэнню. Ад яго ўвесь час ішлі новыя парасткі, калі дрэва страчвала свой камель (ствол). Такім чынам елка працягвала сваё існаванне.

Людзям, як і дрэвам, таксама дапамагаюць жыць карані. Толькі яны ў нас нябачныя: гэта сувязі з сям'ёю, з роднай зямлёй і яе гісторыяй.



Я пастараюся, каб трэці нумар часопіса паспрыяў узмацненню гэтых нябачных, але такіх важных каранёў.
Будзьма ж моцнымі як беларускія дубы!

Гайда са мною ў таямнічую краіну Дрэў!

## Як захаваць нашыя прыродныя скарбы?



Шаноўныя чытачы, ці задумваліся вы, якую ролю адыгрываюць **дрэвы** ў нашым жыцці? Яны кормяць нас, грэюць, даюць жытло і мэблю, кнігі і цацкі, ачышчаюць паветра ад шкодных выкідаў. Мы, вядома ж, вельмі любім гэтыя карысныя расліны, але ж якраз людзі і знішчаюць пераважную большасць іх у дзікай прыродзе! Таму давайце сёння даведаемся, што робіцца ў Беларусі для таго, каб ўратаваць дрэвы.



Нашай краіне пашанцавала, бо трацiна ад яе плошчы пакрытая лясамі. Увогуле ж у нас расце **28 відаў** дрэў. Сярод дзікіх найчасцей сустракаюцца **бярозы, хвоі і елкі.** Аднак раслін старэйшых за 150-200 гадоў (а яны могуць жыць і значна даўжэй!) цяпер у Беларусі нямнога — толькі блізу 70. Так здарылася праз разнастайныя хваробы, неспрыяльныя варункі і актыўную дзейнасць людзей.

Для таго, каб абараніць важныя прыродныя аб'екты і іх насельнікаў, у Беларусі стварылі **запаведнікі, нацыянальныя паркі і заказнікі.**



Мэта запаведнікаў — захаваць у натуральным стане ўсю прыродную тэрыторыю. Тут забаронена ўсялякая чалавечая дзейнасць. Наведвальнікі ж могуць перасоўвацца толькі дазволенымі маршрутамі ці ў суправаджэнні мясцовых супрацоўнікаў.  Толькі такіх строгіх правілаў трэба пільнавацца ў нашым Бярэзінскім біясферным запаведніку.




Больш адкрытымі для турыстаў з'яўляюцца нацыянальныя паркі: Белавежская пушча, Браслаўскія азёры, Нарачанскі і Прыпяцкі. Тут ёсць як некранутыя запаведныя зоны, так і месцы, адкрытыя для знаходжання і адпачынку людзей, а яшчэ могуць быць дазволеныя пэўныя заняткі: паляванне, рыбалоўства і г.д.

Акрамя таго ў Беларусі налічваецца яшчэ блізу **80 заказнікаў**. Там пад аховай дзяржавы знаходзіцца адзін ці некалькі тыпаў прыродных рэсурсаў: дрэвы, жывёлы, балоты ды інш.

Усе гэтыя захады ў пэўнай ступені дазваляюць захаваць нашыя прыродныя скарбы. Напрыклад, **"Цар-дуб"** (у Маларыцкім раёне) — самае старое і вялікае дрэва ў краіне. Яго ўзрост — **800 гадоў**, вышыня — **46 м**, а дыяметр — большы за **2 м.**




Альбо дзівосная **"Хвоя-каралева"** (у Хойніцкім раёне), што мае незвычайную форму кароны, падобную да каралеўскага галаўнога ўбора.

Таму спадзяемся, вы разумееце, што берагчы і клапаціцца варта пра кожнае дрэўца, старое і маладое, рэдкае і "папулярнае". Ніколі не нішчыце расліны, калі трэба падвяжыце ці паліце. Бо яны — часцінка нашай улюблёнай Радзімы!

# заданне

У кожнага дрэва ёсць ствол з тоўстай драўнянай карой, якая абараняе яго.
Ад ствала адыходзяць шырокія сукі, на якіх растуць тонкія галіны.
Увесну з пупышак з'яўляюцца лісточкі і кветкі, а пазней з іх — плады.
Карона дрэва — гэта сукі, галіны і лісце.
Моцныя карані, якія растуць пад зямлёй добра трымаюць дрэва і даюць яму пажыўныя рэчывы.




Размясці словы слушна

пупышкі

карона

карані

сук

ствол

ліст

галінка

кара

# шыфроўка

Сярод дрэваў адшукай самае вялікае і запішы ў першую клетачку літару, што стаіць на ім. З астатніх раслін зноў выберы найвышэйшую і пазнач адпаведную літару ў клетцы 2. Рабі так, пакуль не дойдзеш да самага маленькага дрэўца.

Калі расставіш літары слушна, даведаешся, дзе ў Беларусі растуць 900 відаў раслін і жывуць 250 відаў жывёл і птушак, у тым ліку рэдкія віды




| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | |



# у сярэдзіне дрэва



У сярэдзіне ствала знаходзіцца сэрца-ядро, самая старая частка дрэва.

Дрэвы растуць не толькі на галінах і на верхавінах лісця, але і ўнутры.






Абалона абкружае ядро. Яна дастаўляе ваду ад каранёў да вяршаліны дрэва.

Кару расліны можна назваць скурай, якая кантактуе з навакольным асяроддзем.

Другі слой - луб - праводзіць карысныя рэчывы ад кораня да кароны і назад. Цікава, што луб мае саладкаваты смак, і яго можна ўжываць у ежу людзям! Так часам прыходзілася ратавацца ад голаду і нашым продкам!



Гэты пласт накіроўвае пажыўныя рэчывы з зялёнага лісця ў астатнія тканкі дрэва.

Трэці - гэта камбій. Ен забяспечвае рост ў таўшчыню. Дзякуючы яму на дрэве з'яўляюцца гадавыя кольцы (персцені).

Чацвёрты слой - абалона, якая ёсць жывой часткай драўніны і больш маладой часткай камля.

Пятым ідзе ядро, якое ў многіх парод дрэў пафарбавана ў цямнейшы колер і з'яўляецца самай трывалай і каштоўнай часткай драўніны.






# Гадавыя персцені дрэва

Ці разглядаў ты калі-небудзь спілаванае дрэва? Пэўна, ты бачыў круглыя ўзоры, размешчаныя па ўсёй паверхні спілаванай часткі.
Гэтыя ўзоры называюцца гадавыя персцені. Яны могуць расказаць пра жыццё расліны.
Кожны год пасля зімовага сна дрэвы, што растуць навокал, атрымліваюць новы персцень.

Форма і размяшчэнне гадавых персценяў распавядаюць пра шматлікія падзеі з жыцця дрэва. Дзякуючы ім, вось аб чым можна даведацца:
1) Няма двух раслін з аднолькавымі ўзорамі гадавых персценяў

2) На месцы такой увагнутасці калісьці расла галінка.



3)Першыя дзесяць гадоў жыцця былі для гэтага дрэва неспрыяльнымі. Пасля яно ачуняла і пачало расці нармальна.



4)Гэта дрэва расло вельмі нераўнамерна. Магчыма, адзін яго бок  знаходзіўся ў ценю, альбо вецер часта хіліў дрэва ўбок.



## Як чытаць гадавыя персцені?

Па іх колькасці можна даведацца, колькі гадоў было дрэву перад тым, як яго спілавалі.  Але не толькі ствол мае такія персцені. Галінкі і сукі таксама могуць падказаць узрост дрэва.
Чым шырэйшы персцень, тым лепш расло дрэва ў тым ці іншым годзе.  Дрэва расце хораша толькі пры добрай пагодзе.  Таму па гэтых персценях можна высветліць, якое надвор´е было ў мінулыя гады.

Увесну дрэва расце хутчэй. І ў яго ўзнікае светлая ранняя драўніна. Цёмная позняя  ўтвараецца ўлетку, калі расліна расце павольна.
Такія светлыя і цёмныя палоскі ты можаш убачыць на драўлянай мэблі ці падлозе у сябе дома.

Гэтая шчыліна паказвае, як моцна было пашкоджана дрэва шмат гадоў назад



Шырокі персцень - надвор´е ў той год было добрае.

Вузкі персцень - надвор´е было кепскае.

# Дарагі сябра!

Напэўна, ты любіш піць бярозавік? А збіраць? А цябе ніколі не здзіўляла, адкуль дрэва ( не ягада і не плод) бярэ гэты сок? Здагадаўся?

Так, гэта вада, насычаная спажыўнымі рэчывамі, якую карэнне выцягвае з зямлі. А далей гэтая вада, наш бярозавы сок, імкнецца праз ствол да галінак і лісця.



Але ж якім чынам? Здаецца, помпы ў дрэве няма, а вада звычайна цячэ зверху ўніз, а не знізу ўверх. Дзіўна?

Тады давай правядзём цікавы, просты і вельмі маляўнічы эксперымент, які пакажа, якой спрытнай можа быць вада і як яна ўмее рухацца.

## Для эксперымента нам спатрэбіцца:

6 пустых, пажадана аднолькавых шклянак



\+



харчовыя фарбавальнікі: чырвоны, жоўты, сіні

\+



Вазьмі 6 пустых шклянак, пастаў іх на стале ў адзін шэраг.



Цяпер трэба іх запоўніць вадой амаль да верху, але не ўсе, а толькі першую, трэцюю, пятую, сёмую, такім чынам, каб поўныя і пустыя чаргаваліся.

Далей пачынай акуратна дадаваць фарбавальнік у запоўненыя вадой шклянкі ў такой паслядоўнасці: сіні, жоўты, чырвоны.

Адарві ад рулона 6 папяровых ручнікоў і зрабі з іх даўгія і вузкія палоскі (можна скласці ў некалькі разоў, а можна скруціць).



Кожную палоску трэба скласці напалам і апусціць адзін канец у поўную шклянку, а другі-у пустую. Такім чынам, усё шклянкі трэба аб'яднаць паміж сабой.

Самы складаны пункт: чакаць! Каб было лягчэй, можна пагуляць, пачытаць, паесці і нават паспаць, калі ты пачаў рабіць эксперымент увечары. Тады вынік будзе чакаць цябе з раніцы.



Ужо праз колькі гадзін вада пачне вельмі павольна пераходзіць з адной шклянкі ў другую, а праз некалькі гадзін можна будзе назіраць вынік!

ВЫНІК



экспэрымент



Што ў цябе атрымалася? Цуд?
А можа, жывая вада, якая перабегла з поўных шклянак у пустыя?
Ці проста і адначасова складана: ты назіраеш адзін з законаў прыроды?
І, вядома, ты бачыш прыгажосць, бо замест трох колераў у цябе атрымалася амаль вясёлка.

Вось гэтае перамяшчэнне фарбаванай вады паміж шклянкамі, што ты стварыў, імітуе працэсы, якія адбываюцца ў клетках раслінаў.

Карысныя рэчывы, якія карані дрэваў здабываюць з зямлі, перасоўваюцца па ствале ўверх (як у нашым эксперыменце), да лісця, дзякуючы сілам, якія дзейнічаюць у клетках дрзва.



Такім чынам, здавалася б, нежывы арганізм дрэва можа перасоўваць па здранцвелых клетках карысныя, смачныя рэчывы.

Асабліва гэты працэс актывізуецца, як ты ўжо ведаеш, увесну, калі некаторыя віды дрэваў асабліва актыўна выдзяляюць свае сокі.

Пытанні для самых цікаўных

1. Сок якіх дрэваў, акрамя бярозавага, ужываюць людзі?
2. Адкуль у нашых шклянках з'явіліся новыя колеры?
3. Ты, напэўна, заўважыў, што ўзровень вады ва ўсіх шклянках стаў аднолькавым: нідзе больш, нідзе менш. Паспрабуй паразважаць, чаму так адбылося.

## Лямус у Горадні




Адпраўляемся ў цудоўны горад **Горадню**, багаты на архітэктурную спадчыну. У яго цэнтры, каля кляштара брыгітак, стаіць незвычайны будынак. Гэта лямус - адная з самых старых драўляных пабудоў у Беларусі. Даведайцеся крыху **цікавай інфармацыі** пра яго:

1. Лямусы нярэдка будаваліся ў нас з **17-га да 20-га** стагоддзя. Горадзенскі з'яўляецца помнікам позняга барока.

2. Сама назва будынка перакладаецца з нямецкай як **"дом з гліны".**

3. **Першы** паверх лямуса быў для розных гаспадарчых патрэб, **другі** – для жылля манахінь-брыгітак.

4. Дакладны ўзрост горадзенскай рэліквіі невядомы: **300 альбо 400 годоў.** Вызначыць гэта дапаможа толькі **дэндрахраналогія:** даследаванне гадавых кольцаў на бярвенні.




Гонта

гонтавы дах высцілаецца гонтай — невялікімі дошчачкамі ў выглядзе кліна з адмысловым шпарам на шырэйшым баку.



Пабудова рубленая ў **"чысты вугал"** на каменным падсценку (цокалі).




чысты вугал
(нямецкі вугал)

З чатырохсхільнай вальмавай страхой з двухузроўневай шалерэяй на слупах — **дзядках.**

5. Для сцен лямуса выкарыстоўвалі масіўныя брусы іглістых відаў дрэва, для страхі - колатыя асінавыя дошчачкі.

6. Першапачаткова будынак быў зроблены без аніводнага цвіка! Але ж пазней давялося змацоўваць імі старыя бярвёны, каб лямус не раскідаўся.

7. Рэстаўрацыя пачалася тут толькі ў 2016 годзе, а першая экскурсія прайшла ўсяго некалькі месяцаў таму. Трапіць на яе можна бясплатна, толькі варта папярэдне запісацца.

8. Каб умацаваць падмуркі будынка, яго ўсяго паднімалі спецыяльнымі дамкратамі на некалькі сантыметраў уверх!

9. У сярэдзіну лямуса зайсці турыстам пакуль што нельга, бо там трываюць будаўнічыя працы.

10. У будучыні ў драўлянай пабудове размесціцца музей каталіцкага ордэна брыгітак, якія дзейнічалі ў Горадні цягам 300 годоў.









падумай

Зверху ўніз, справа налева ліст дрэва
павінен быць толькі адзін раз.



Разглядзі ўважліва дрэвы,
іх лісце і плады. Здагадайся,
як называецца кожная расліна, расфарбуй малюнкі



Злучы кожнае дрэва з яго лісцем і плодам.



# СЛОВАЛОВЫ

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ж | А | Б | І | Н | А | Е | Ц | Л | Р | А | К | Р | Я | Б |
| О | Р | А | Д | А | В | Я | С | І | А | Р | З | О | З | А |
| Л | І | П | А | Х | В | О | У | К | А | П | А | Н | Е | В |
| У | Л | С | О | Н | Ц | А | С | Р | В | К | Л | Ё | Н | І |
| Д | А | Р | Г | Л | Ё | Я | В | А | Е | Д | Н | Э | Н | К |
| А | Ш | У | А | Л | А | Р | О | Н | А | К | І | Р | А | К |
| А | К | Ш | Г | В | К | А | Р | Г | А | Г | Л | Е | Б | А |
| Ў | О | Ы | Р | Е | Р | Ш | Е | А | Й | А | Р | О | Д | Д |
| З | Д | Ш | А | Н | Б | А | П | А | П | Н | А | Л | С | І |
| Я | Н | Г | С | Р | Я | Л | І | Н | Г | І | Е | Н | Ь | К |
| Е | С | І | Л | О | С | Я | І | А | А | Л | П | У | Б | А |
| Л | Ш | К | І | С | Н | Л | Н | Е | С | А | Н | Д | О | З |
| А | Ы | П | Н | Т | І | Т | А | Н | Р | О | В | А | Р | Я |
| Ч | П | У | А | А | Ц | Ш | Е | Н | Б | Н | Н | Е | Н | Б |
| Ш | У | П | А | В | Т | А | К | Д | У | Э | Ш | А | Р | А |

**Знайдзі словы сярод літар.**
Словы можна прачытаць па гарызанталі, вертыкалі, злева направа, справа налева.
Будзь вельмі ўважлівы!
Калі знойдзеш усё, складзі слова з літар, якія засталіся.
Паспрабуй не карыстацца падказкамі!

арашэнне, бяроза, бярозавік, бяроста, вада, вершаліна, гай, галлё,галіна, глеба, гняздо, груша, дуб, дуброва, жолуд, запаведнік, кара, карона, карэнне, каштан, кісларод, клён, ліпа, лісце, лес, лясніцтва, насенне, папера, пень, пупышкі, пушча, рабіна, расліна, сонца, сук, хвоя, шышка, явар,

# БЛЫТАНКА

У словах літары паблыталіся месцамі.
Паспрабуйце пераставіць іх назад, прачытайце тое, што выйшла, і знайдзіце адно лішняе слова ў кожным шэрагу.

1. Лкапа, чачсу, цвеце, лінага, ньеп

2. Няшві, ыалча, шаугр, лябыня, міняз

3. Сел, айг, шчапу, трыне, обр



Насамрэч, такіх ілюзій шмат у нашым свеце, але вартага тлумачэння яны так і не атрымалі. Ілюзіі і рэчаіснасць могуць мець вялікую розніцу. Наш мозг можа разумець, што гэта падман, аднак вочы ўсё роўна бачаць інакш. Гэтыя цікавыя загадкі можна разгадваць і дзецям, і дарослым.

На гэтым дрэве схаваліся 2 вавёрачкі. Знайдзіце іх.

На першы погляд, на гэтым малюнку выяўлена толькі дрэва і 2 чалавечыя галавы. Але насамрэч іх больш, чым вы думаеце!



Паспрабуйце адшукаць усе твары, прыхаваныя ў дрэве.

Прывітанне, Жэўжык!

У сваёй бабулі на Гомельшчыне я пабачыў адну дзіўную рэч. Пасярод зімы на голым дрэве на адной галінцы было мноства маленькіх лісцікаў! Я спачатку не паверыў, што так можа быць. Прыгледзеўся лепей, але вочы мяне не падманулі!

Трошкі пазней мне расказалі, што гэта на дрэве была амяла – расліна паразіт. Раскажы пра яе падрабязней, калі ласка!

Станька Рудакоўскі





## АДКАЗ:

Сапраўды, ты пазнаёміўся з вечназялёнай кустарнікавай раслінай амялою. Яна жыве на галінах нашых дрэў, бо не мае сапраўдных каранёў. Фотасінтэз (ператварэнне святла ў энергію) амяла здзяйсняе сама, але ваду і мінеральныя рэчывы атрымлівае ад дрэва-гаспадара, таму і называецца паўпаразітам. Яе насенне распаўсюджваецца арыгінальным шляхам: наліпае на дзюбы птушкам, якія харчуюцца ягадамі амялы.

Амялушка (атрымала назву якраз ад свайго любімага ласунка) ці дрозд спрабуюць выцерці "запэцканую" дзюбку аб кару дрэва, дзе ў выніку і прарастае амяла.

Цікава, што гэтая расліна больш характэрная для цёплых паўднёвых краін, але ў Беларусі ўсё ж сустракаецца 2 яе віды. А яшчэ даўным-даўно ў Англіі вечназялёную амялу выкарыстоўвалі на Каляды замест ялінкі.

Вітаю, Жэўжык!

Хачу запытацца, што гэта за дуб, лісты якога вельмі падобныя да кляновых?

Надзея





## АДКАЗ:

Гэта амерыканскі ці чырвоны дуб, яго радзіма — Паўночная Амерыка. А ў Беларусі ён з'явіўся толькі 100 год таму. Расліна вельмі прыгожая, мае пунсовую лістоту, аднак і найбольш небяспечная для нашых лясоў. Чырвоны дуб тут вельмі добра прыжыўся, але ж яго лісце вельмі жорсткае і доўга раскладаецца: бо ў Беларусі няма спадарожных мікраарганізмаў, што спрыяюць гэтаму працэсу.

У выніку лісце амерыканскага дрэва стварае на глебе шчыльнае покрыва і не дазваляе прабіцца скрозь яго іншым раслінам.

А ці ты ведаеш, чаму жаўцее лісце?




Большасць раслін утрымлівае спецыяльнае рэчыва — хларафіл. З дапамогай сонечнага святла ён стварае ежу, неабходную для росту раслін. Яшчэ хларафіл афарбоўвае лісце ў зялёны колер. У восень, калі сонечнага святла становіцца менш, ежы для раслін таксама ўтвараецца менш. Хларафіл распадаецца. Вось чаму лісце губляе зялёны колер. Калі хларафіла зусім не застаецца, лісце становіцца жоўтым, аранжавым, карычневым і чырвоным.

Цікава, што жоўты і аранжавы колеры заўсёды ёсць у лісцях. Але ярка зялёны колер хларафіла іх перакрывае.

Вітаю, Жэўкык!

Піша табе Дамінік з горада Фаніпаля. Мне 9 год. Твой часопіс мне вельмі спадабаўся, асабліва комiксы. Было б файна, каб іх было яшчэ больш.

А маёй сястры Дануце, якой 6 год, больш за ўсё спадабаліся майстар-класы і лабірынты з рэбусамі. Крыкаванку мы разгадвалі ўвогуле ўсёй сям'ёю!

Мы прачыталі пра тое, што наступны нумар часопіса будзе пра дрэвы і вырашылі расказаць нашу сямейную гісторыю.

Справа ў тым, што нашаму тату вельмі падабаюцца дубы: таму, што яны такія макныя, магутныя, як сапраўдныя мужчыны. І вось амаль два гады таму, у пачатку восені 2017 года, калі мы збіралі грыбы ў лесе, тата прапанаваў выкапаць лясны невялікі дубок і пасадзіць яго ў нашым двары. Жыхары нашага дома ўжо пасадзілі ў двары хто елку, хто вочатнае дрэва, ну а мы вырашылі дубок.

Асцярожна выкапалі, разам з дзёрнам, які быў вакол, і прывезлі дадому. Выбралі на газоне светлае і пустое месца, выкапалі яміну і пасадзілі нашае дрэўца.

Калі прайшла зіма і наступіла вясна, мы вельмі хваляваліся, ці перакыў наш маленькі дубок сваю першую і халодную зіму ў горадзе. Але ён малайчына, адукаў і выпусціў лісце.

Цяпер наступіла ўжо другая вясна нашага сямейнага дрэва. Мы за ім даглядаем– паліваем, калі засушлівае надвор'е. Нядаўна падсілкавалі ўгнаеннямі. А я неяк убачыў, што маленькія хлопчыкі абрываюць лісточкі з галінак, і казаў ім, каб адыйшлі і не псавалі дрэва.

Мы вельмі спадзяемся, што наш дубок і далей будзе расці разам з намі і вырасце сапраўдным асілкам.

Мы будзем назіраць за ім і штогод фатаграфавацца побач.

Дамінік










Перакладзі адну запалку так, каб няроўнасць стала правільнай






2 = блакітны
3 = цёмна-зялёны
4 = жоўты
5 = памяранцавы/аранжавы
6 = чырвоны
7 = карычневы

Вылічы кожны прыклад, тады атрымаеш адказ, якім колерам трэба размаляваць усе часткі дрэва.

# Гульні з запалкамі

**"А хіба так можна?!"** - спытаюць дзеці.
І правільна зробяць, бо вас з дзяцінства вучаць, што з запалкамі гуляць нельга, каб не было пажару.




Але ж сёння хочацца расказаць, як можна бяспечна выкарыстаць запалкі для цікавага занятку, а дакладней, як зрабіць з іх незвычайны канструктар!

+




Такім чынам, пачынаем з таго, што трэба папрасіць у дарослых **10-20 запалак без пушкі.** І яшчэ нам патрэбны **пластылін** усялякага колеру. Калі іх будзе некалькі, то будзе весялей.

Зляпіце з пластыліну шмат маленькіх шарыкаў (дыяметр дзесьці 1 см).




Затым уткніце ў такі шарык адзін канец запалкі, а другі канец — у новую пластылінавую загатоўку.



Атрымалася своеасаблівая **"гантэлька"** — гэта і ёсць **аснова** для нашага канструктару!

1

З дапамогай такіх "дэталяў" можна зрабіць шмат цікавых фігур, будынкаў, жывёлін і людзей.



2



3



Смела фантазуйце і гуляйце з запалкамі
**толькі ў бяспечныя гульні!**

# Летні торт з ягадамі і марозівам

Ці ведаеш, дарагі дружа, чаму першы месяц называецца чэрвенем? Адна з версій кажа, што ў гэтым месяцы з'яўляюцца першыя чырвоныя ягады, таму і назвалі чэрвенем.

І сёння мы прыгатуем торт з чырвонымі ягадамі і марозівам!



Для торта нам спатрэбіцца:

1 Печыва саваярдзі альбо любое другое печыва



ці



+

2 Тваё любімае марозіва



+

3 Смачныя ягады, напрыклад, клубніцы



Марозіва дастань з маразілкі, каб яно крыху падтала.

Вазьмі раздымную форму (у такой форме можна зняць сценкі) і выкладзі па баках пергамент.

На дно пакладзі слой печыва (яго можна абмакнуць у сок).

Наступны слой - марозіва. Пасля зноў печыва і наверх марозіва.

Потым зноў печыва і наверх марозіва.

Пастаў торт у маразілку.

Перад тым, як падаць яго на стол, упрыгож ягадамі.



Смачна есці!


Рэдакцыя Рызыкантаў
Падзея 2
Пустазелле
Не пройдзе!
Вось і надышла вясна! Клас Бэна і Клары разам з настаўніцай ангельскай мовы паехаў на экскурсію ў знакаміты батанічны сад.
Сёння ў нас квэст на тэму раслін. Мы падзелімся на каманды. Кожная каманда атрымае заданне. Пераможцаў чакае прыз!
Бзззз-ззз-зз
Пасля экскурсіі мы завітаем у кафэ-марозіва і пакаштуем незвычайнае лавандавае марозіва.
Смаката!
Здарова!
Але папярэджваю!
Калі хтосьці з вас парушыць хоць адно правіла гэтага найцудоўнейшага парка, я буду вымушана адмяніць паход у кафэ. Замест марозіва вы застанецеся тут і будзеце змагацца з пустазеллем у кактусавым садзе.
Каманды пачалі спаборніцтва.
Так, першае заданне: знайсці дрэва гінкга і ўказальнік ля яго.
Гінкга! Дзе ты?
ХРШЧШ
О, чакай, Бэн, зараз!
??
Пакуль ты ганяешся за ваверкай, я сам выканаю наступнае заданне.
КЛІК
КЛІК
А вось і гінкга!
Гінкга
Ginkgo biloba
манатыпны род голанасенных раслін сямейства гінкгавых. Старажытны рэлікт цеплалюбнай даледавіковай флоры (геалагічны ўзрост віду каля 50 млн гадоў)
Праз хвіліну.
КЛІК
КЛІК
Клара, хопіць лынды біць! Пакуль ты робіш соты фотаздымак ваверкі, я ўжо выканаў некалькі заданняў.
Вой! Я зусім забылася на час, прабач! Якое наступнае заданне?
Спачатку ідзём у аранжарэю, а потым да хелафітаў. ( расліны, карані якіх растуць у вадзе)


Галоўны ўваход
Аранжэрэя
Целафіты
Зірні! Замкнёная брама.
Таямнічы сад! Што хаваецца за жываплотам?
Глядзі, якая там цікавая статуя!
Лабірынт. Уваход толькі з экскурсаводам. Небяспека заблукаць.
Я вельмі хачу зрабіць хоць адзін фотаздымак!
ШЛЮПФ
Не, чакай!
Клара, гэта лабірынт, мы не мусім сюды ўваходзіць. Дый у нас і часу няма. Трэба дарабіць апошнія заданні.
Я крыху пафатаграфую, а ты можаш выканаць пару заданняў. Потым я падзялюся з табой сваім лавандавым марозівам.
З узбітымі вяршкамі і арэхамі.
Эээ, а калі мы заблукаем у лабірынце і не зможам выбрацца?
Бэн, я не такая ўжо няўдаха!
Добра, але глядзі, каб цябе не злавіла наша настаўніца!
Вядома, інакш ніхто не атрымае марозіва. Да сустрэчы!
Ага, мапа лабірынта. Вазьму на ўсялякі выпадак, раптам спатрэбіцца.
КРПШШ
Мапы парку


Праз паўгадзіны.
Ну вось, час вяртацца назад. Калі не памыляюся, мне трэба павярнуць налева, каб дайсці да выхаду.
TAPP
TAPP
Крыху пазней на скрыжаванні
Гм, вельмі дзіўна. Па маіх падліках я ўжо мусіла быць ля брамы. Гэты жываплот, пэўна, зачараваны!
І вось...
Без дапамогі я не змагу адтуль выбрацца
Калі настаўніца даведаецца, што я тут блукаю, экскурсія будзе спасаваная і ніхто не пачастуецца марозівам. Увесь клас узненавідзіць мяне.
Я ў роспачы. Што ж рабіць?
Праз колькі часу ў садзе хелафітаў
ДЗЗЗЗ
ДЗЗЗЗЗ
ДЗЗЗЗ
ДЗЗ
Мой тэлефон!
Бэн, я не магу выбрацца з лабірынта!
Спакойна, Клара, у мяне ёсць мапа.


1
5
2
4
3
1. Фантан ля платанаў
2. Фантан ля магнолій
3. Фантан ля эўкаліптаў
4. Фантан ля драсёнавых кустоў
5. Фантан ля гінкга
Ты сказала, што ты каля фантана? Каля якога? Там мусіць быць нейкая расліна.
Так, нейкае дрэва.
Якое?
SCHNAPP
Адкуль жа мне ведаць? Я фатограф, а не батанік!
Ах, Клара, так мы з табой кашы не зварым.
Пачакай, у мяне ідэя! Я патэлефаную праз пару хвілін.
Крыху пазней
Фотазыдмак з зялёнага пекла! Ці прыйдзе дапамога?
піііп
піп
Ну вось, цяпер я ведаю, дзе заблукала Клара і магу правесці яе да выхаду.
Пасля абеда
Пустазелле не пройдзе! Фатограф выратаваны!
Тссс, Бэн! Нас могуць пачуць!
Як Клара выбралася з лабірынта? Адказ на старонцы 33

# In the forest / У лесе



Hello! У гэтым нумары я пачну вывучаць з табой англійскую мову! Перад табой карцінка. Якія словы ты зможаш знайсці? Пастаў тую лічбу, якая адпавядае пэўнаму слову. А потым паспрабуй сам назваць па англійску, што намалявана на карціне.

## In the forest/У лесе

1. **tree** - дрэва *(кажы трі)*
2. **rock** - камень *(кажы рок)*
3. **sky** - неба *(кажы скай)*
4. **grass** - трава *(кажы грас)*
5. **stump** - пень *(кажы стамп)*
6. **mushroom** - грыб *(кажы машрум)*
7. **cloud** - воблака *(кажы клауд)*
8. **berries** - ягады *(кажы бэрiз)*

## Цікавы выраз

У англійскай мове ёсць выраз **mouse potato**. Калі перакласці словы асобна, то *mouse* - мыш, а *potato* - бульба. Але разам **mouse potato** абазначае чалавека, які ўвесь свой вольны час праводзіць за кампутарам. Таму давай ніколі не будзем з табой **mouse potato**! Лепш зладзіць з бацькамі прагулянку ў лес!

# адказы

### старонка 6. Размясці
1. Карона 2. Пупышкі
3. Галінка 4. Карані
5. Ствол 6. Кара
7. Ліст 8. Сук

### старонка 7. Шыфроўка
Белавежская

### старонка 13. Знаходкі





### старонка 18. Слованоўы

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ж | А | Б | І | Н | А | Е | Ц | Л | | А | К | Р | Я | Б |
| О | Р | А | Д | А | В | Я | С | І | А | Р | З | О | З | А |
| Л | І | П | А | Х | В | О | У | К | А | П | А | Н | Е | В |
| У | Л | С | О | Н | Ц | А | С | Р | В | К | Л | Ё | Н | І |
| Д | | Р | Г | Л | Ё | Я | В | А | Е | Д | Н | Э | Н | К |
| А | Ш | У | А | Л | А | Р | О | Н | А | К | І | Р | А | К |
| А | К | Ш | Г | В | К | А | Р | Г | | Г | Л | Е | Б | А |
| | О | Ы | Р | Е | Р | Ш | Е | А | Й | А | Р | О | Д | |
| З | Д | Ш | А | | Б | А | П | А | П | Н | А | Л | С | І |
| Я | Н | Г | С | Р | Я | Л | І | Н | Г | І | Е | Н | Ь | К |
| Е | С | І | Л | О | С | Я | | А | А | Л | П | У | Б | А |
| Л | Ш | К | І | С | Н | Л | Н | Е | С | А | Н | Д | О | З |
| А | Ы | П | Н | Т | І | Т | А | Н | Р | О | В | А | Р | Я |
| Ч | П | У | А | А | Ц | Ш | Е | Н | Б | Н | Н | Е | | Б |
| Ш | У | П | А | В | Т | А | К | Д | У | Э | Ш | А | Р | А |

### старонкі 16–17. Злучы, устаў, падпішы


злева направа:
першы радок:
*піхта, елка, хвоя, бук.*
другі радок:
*дуб, каштан, бяроза, клён.*



### старонка 23


### старонка 18. Блытанка
1. Палка, сучча, вецце, галіна, пень
2. Вішня, алыча, груша, яблыня, язмін
3. Лес, гай, пушча, бор, нетры

### старонка 19.
### Аптычная ілюзія




### старонка 23. Палічы і размалюй


### старонка 30. Англійская мова



### старонка 29. Комікс
Калі б Клара была больш уважлівай, то ведала б, што знаходзіцца ля фантана ў садзе з гінкга.
Чырвоным пазначана дарога, па якой Бэн дапамог Клары выбрацца з лабірынта

ЖЭЎЖЫК
Часопіс для дзяцей ад 6 год.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з сакавіка 2019 года.

Над нумарам працавалі:
Наталка Дзінкель, Марына Кузьмянкова, Волька Жарнасек, Алена Мінчэня.

Выказваем падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы рубрык:
Вікторыі Буінай (@valeriana_0fficinalis) ("Смачна есці")
Кацярыне Таразевіч ("Эксперымент")
Аляксандры Баярынай ("Слоўнік дойліда")
Дзякуем Іне Мудрачэнка за дапамогу ў карэктуры.
Асобная падзяка за парады па вёрстцы - Марыне Курышка.
А таксама шчыра дзякуем мастачцы Жэні Яснай (@yasnaya_jane) за Жэўжыка, які ажыў нарэшце)))

Пры падрыхтоўцы нумару выкарыстоўваліся матэрыялы і фотаздымкі з сайтаў brestCITY.com; fotobel.by; gomel.today; landkind.blog; cram.com; pinterest.com; dreamstime.com; exploringnature.org; waldwissen.net; pixabay. com; freepik. com.
фотаздымкі з асабістага архіву сям'і Таразевіч, Вікторыі Буінай, Вольгі Жарнасек. Кацярыны Буто.
Пераклад коміксу з часопісу на нямецкай мове: Krimi-Comics zum Lesen u. Mitraten ад GEOlino

Мае дарагія чытачы, я буду вельмі рады вашым лістам.
Лістуйце мне на адрас: chasopis.zheuzhik@gmail.com
Таксама мяне можна знайсці ў Фэйсбуку: https://www.facebook.com/chasopis.zheuzhik

Да новых сустрэч!

## тэма наступнага нумара
## Вада
## (Водная сістэма Беларусі)

